**У суботу заканчваецца падпіска на «Народную Волю» на II квартал. На пошту!**


**№№47–48 (3586–3587)**

23 сакавіка 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля». Кошт — свабодны.


# Народная Воля

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ЗАПРАШЭННЕ

# Мы — вольныя людзі!

Тыя, каго цікавіць гісторыя і хвалюе далейшы лёс Айчыны, 25 сакавіка неафіцыйна называюць Днём Волі. І гэта правільна. Абвяшчэнне незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі — значная вяха на шляху беларусаў да стварэння самастойнай дзяржавы. На пачатку XX стагоддзя, калі руйнаваліся імперыі, шмат якія народы Еўропы імкнуліся здабыць незалежнасць, але ўдалося гэта далёка не ўсім. Многія так і засталіся ў статусе нацыянальных меншасцяў ці зніклі ў працэсах асіміляцыі.

Тое, што беларусы здолелі захаваць сваю мову, культуру, гістарычную памяць і нацыянальную свядомасць, сведчыць аб моцы нашага народа, аб той магутнай гістарычнай і культурнай спадчыне, якая дазваляе нам будаваць сваю ўласную дзяржаву ў сям'і вольных народаў Еўропы. Менавіта гэта было засведчана Трэцяй Устаўнай Граматай Рады БНР ад 25 сакавіка 1918 года, якая абвясціла незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.

Ідэалы БНР — не толькі вялікая каштоўнасць, але і вялікая адказнасць. Сёння іх зноў спрабуюць замоўчваць ці фальсіфікаваць. Над нашым народам зноў навісла пагроза імперскай інкарпарацыі. Скарачаецца сфера ўжывання беларускай мовы, перайначваюцца гістарычныя факты, патаемна ад народа творацца маніпуляцыі з зямлёй і народнай маёмасцю, падвяргаюцца рэпрэсіям тыя, хто супраць гэтага пратэстуе.

Таму кожны, каму дарагія незалежнасць нашай Бацькаўшчыны, хто выступае за захаванне нацыянальнай адметнасці беларусаў і за дэмакратычны, еўрапейскі накірунак развіцця нашай краіны, мусіць прадэманстраваць сваю пазіцыю, далучыўшыся да святкавання Дня Волі 25 сакавіка 2012 года.

Безумоўна, такая падзея павінна была б адзначацца на дзяржаўным узроўні, у самым прэстыжным месцы сталіцы. Але мы, прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці, мусім самі зрабіць так, каб месца, дзе 25 сакавіка 2012 года будзе святкавацца чарговая гадавіна Беларускай Народнай Рэспублікі, увайшло ў гісторыю нашай незалежнай краіны. І дзеля гэтага нам усім у гэты дзень трэба быць разам.

Мінгарвыканкамам была задаволена заяўка на збор ля Акадэміі навук у 13.30, шэсце і мітынг на плошчы Бангалор з 15.00 да 17.00.

Да сустрэчы!

Жыве Беларусь!

**Уладзімір КОЛАС, старшыня Грамадскага камітэта па ўшанаванні Дня Волі 25 сакавіка 2012 г.**

АКЦЫЯ

# Выйдзем!



Нагадаем, Мінгарвыканкам афіцыйна дазволіў шэсце і мітынг, прымеркаваныя да чарговай гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі. Гарадскія ўлады задаволілі заяўку арганізатараў мерапрыемства, дазволіўшы сабрацца людзям у нядзелю 25 сакавіка ля будынка Акадэміі навук у 13.30, адкуль калона пройдзе на плошчу Бангалор, дзе ў 15.00 распачнецца мітынг. Атрыманы дазвол таксама і на выкарыстанне падчас акцыі нацыянальна-гістарычнай сімволікі.

Старшыня аргкамітэта па правядзенні шэсця і мітынгу **Уладзімір Колас** сказаў на прэс-канферэнцыі, што не падтрымлівае тых, хто заклікае не прымаць удзел у святкаванні толькі з-за месца ягонага правядзення — плошчы Бангалор. *"На маю думку, не важна, дзе збірацца, галоўнае — увогуле сабрацца і быць у гэты дзень разам",* — кажа Колас.

Дарэчы, у дзень правядзення акцыі — 25 Сакавіка на плошчы Бангалор будуць усталяваны шэсць рамак-металашукальнікаў — гэта будзе зроблена для бяспекі. Апрача таго, падчас шэсця і мітынгу за парадкам будзе назіраць спецыяльная дружына, складзеная з прадстаўнікоў дэмакратычнай грамадскасці.

Сябра аргкамітэта па святкаванні 25 Сакавіка **Віктар Івашкевіч** сказаў:

*"Арганізатары дамагліся ўсяго, чаго маглі — атрымалі дазвол на правядзенне акцыі і гарантыі таго, што ніхто не будзе збіты ці кінуты "на суткі".* Цяпер няма ніякай праблемы самому купіць ці вырабіць бел-чырвона-белы сцяг і прыйсці на акцыю, тым больш што выкарыстанне нацыянальнай сімволікі — бел-чырвона-белага сцяга і герба "Пагоня" — дазволена. Па крайняй меры ў гэтым запэўнілі ў Мінгарвыканкаме.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

*З сёлетняй восені геаграфію і гісторыю ў школах, гімназіях, каледжах, інстытутах, універсітэтах і акадэміях будуць выкладаць на беларускай мове. Пахвальны крок!*

РЭЗАНАНС

## *Расія зацікаўлена, каб Беларусь увяла мараторый на смяротную кару*

*Пра гэта заявіў кіраўнік расійскага МЗС **Сяргей Лаўроў**.*

"Барацьба супраць тэрарызму, вядома, павінна быць бязлітаснай, — цытуе словы Лаўрова РІА "Новости". — У той жа час нашы адносіны да смяротнай кары добра вядомыя, мы даўно аб'явілі мараторый... Мы... былі б зацікаўлены ў тым, каб усе еўрапейскія краіны да такога мараторыя далучыліся".

Кіраўнік МЗС Расіі адзначыў, што *"рух Беларусі ў бок пайнавартаснага сяброўства ў Савеце Еўропы якраз забяспечыць рашэнне праблемы ўжывання смяротнай кары".*

SOS!

*Алена КАВАЛЕНКА:*

# «Сяргей увесь жоўты...»



Дзясяткі журналістаў кожны дзень тэлефануюць у СІЗА №1 на вуліцы Валадарскага з адным пытаннем: "Які стан Сяргея Каваленкі?" Віцебскі актывіст КХП—БНФ працягвае галадоўку, але пра яго лёс па-ранейшаму няма ніякіх уцямных навін.

Зноў Сяргея бачыла жонка Алена. Зноў Сяргей заявіў, што спыняць галадоўку не збіраецца. Жанчына ўжо нават не хавае слёз і не ведае, што рабіць. Чаму хлопца, віна якога толькі ў тым, што вывесіў на навагодняй ёлцы бел-чырвона-белы сцяг, трэба трымаць за кратамі, як невядома якога злачынцу? Чаму яго нельга выпусціць хаця б пад дамашні арышт, каб у нармальных умовах аб стане яго здароўя маглі паклапаціцца медыкі? Навошта даводзіць чалавека да краю?.. Адказаў на гэтыя пытанні няма, нягледзячы на тое, што самыя розныя людзі хадайнічаюць аб тым, каб мера стрымання Каваленку была зменена.

*"Сяргей нават чуць не хоча пра спыненне галадоўкі,* — распавяла ўчора Алена. — *Яшчэ раз сказаў мне, што пойдзе да канца... Выглядае ён проста жахліва... Ён увесь жоўты — рукі, твар, скура абсалютна жоўтага колеру... Відавочна, што ва ўнутраных органах распачаліся незваротныя працэсы. Я не медык, але калі ў чалавека няма нават слінавыдзялення, гэта, па-мойму, сведчыць пра страшнае. На спатканне ён спазніўся на пяць хвілін... Мяне нават супрацоўнік СІЗА папярэдзіў, што мужу цяжка хадзіць, чакайце... Сяргей прыйшоў і, каб перакінуць нагу праз лаўку, дапамагаў сабе рукой... Балюча было на гэта глядзець..."*

Сяргей распавёў жонцы, што яму па-ранейшаму прымусова ставяць кропельніцы. Падчас гэтай працэдуры ў камеры знаходзяцца 8 супрацоўнікаў СІЗА, якія прывязваюць яго да ложка і толькі пасля гэтага ўводзяць лекі. Акрамя таго, яшчэ двое супрацоўнікаў спецустановы ўвесь час знаходзяцца перад камерай, дзе ён знаходзіцца. Паміж сабой ахоўнікі гучна размаўляюць, не даючы змучанаму і знясіленаму чалавеку спаць. Хаця не выключана, што Каваленка ўжо ў такім стане, калі арганізм успрымае ўсё абвострана.

*"Я не ведаю, што можа быць далей,* — гаворыць Алена. — *Мне проста страшна пра гэта думаць. Я проста не ўяўляю, як ва ўмовах турмы можна вывесці чалавека з такой доўгатэрміновай галадоўкі. Яму тэрмінова неабходна лячэнне ў звычайнай бальніцы, неабходна спецыяльная дамашняя дыета. Але я не ведаю, як гэтага дабіцца...*

*Як Сяргея будуць лячыць у турме, мне пакуль невядома. Але здагадваюся, што сітуацыя са станам здароўя мужа крытычная. У медчасці СІЗА мне паведамілі, што далейшы лёс Сяргея будзе залежаць ад рашэння ўрача-рэаніматолага, які павінен бліжэйшым часам абследаваць мужа".*

Сёння, 23 сакавіка, на спатканне да Сяргея пойдзе ягоны брат Віталь. Няцяжка здагадацца, што родных ахвотна пускаюць на сустрэчы да Каваленкі, спадзеючыся на тое, што ім удасца неяк пераканаць Сяргея ў неабходнасці спыніць пратэст. Але падчас такіх сустрэч гаварыць пра якія-небудзь акцыі грамадскай падтрымкі галадоўшчыка, пра захады па ягоным вызваленні родным забаронена.

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

## *Ірына ХАЛІП: «Саннікаў жывы і стараецца трымацца»*

*Учора ў калоніі "Віцьба-3" з экс-кандыдатам у прэзідэнты Беларусі Андрэем Саннікавым сустрэлася адвакат Марына Кавалеўская.*

*"Інфармацыі пасля сустрэчы няшмат,* — прызналася "Народнай Волі" жонка Андрэя Саннікава Ірына Халіп. — *Відавочна, што Андрэю па-ранейшаму забаронена расказваць пра тое, што адбываецца з ім у калоніі. Адзінае, што магу сказаць, ён жывы і стараецца трымацца ва ўмовах няволі. З адвакатам яны абмеркавалі шэраг юрыдычных пытанняў, якія датычацца яго справы. Вось і ўсё. Лістоў ад яго я не атрымліваю даўно — апошні прыйшоў на пачатку месяца, калі Андрэй павіншаваў мяне са святам..."*

Ірына Халіп таксама пракаментавала інфармацыю аб тым, што Генеральная пракуратура Беларусі завяршае праверку інфармацыі, што прашэнне аб памілаванні на імя Аляксандра Лукашэнкі Саннікаў пісаў пад прымусам. *"Гэта нейкая дзіўная праверка, больш падобная на адгаворкі,* — лічыць Ірына Халіп. — *На маё разуменне, пры праверцы перш-наперш пракурорскім работнікам трэба было б сустрэцца з самім Саннікавым, каб з першых вуснаў даведацца, што і як было. Але, наколькі я ведаю, пакуль ніхто да Андрэя за якімі-небудзь тлумачэннямі не звяртаўся. Усё гэта банальнае зацягванне часу. Таму да ўсіх чутак наконт хуткага вызвалення мужа з-за кратаў я стаўлюся спакойна. Канечне, апошнія амаль паўтара года я толькі і мару, каб Андрэй апынуўся на волі, але ў гэтай сітуацыі прагнозы наконт таго, як і калі ён выйдзе на волю, я рабіць не адважваюся".*

**Кастусь ЛІПСКІ.**

*Аляксандр КЛАСКОЎСКІ*

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



# Беларусь возьмуць голымі рукамі?

Заўважце: дазвол на шэсце ў гонар чарговай гадавіны БНР у Мінску ўлады далі, калі Аляксандр Лукашэнка быў з візітам у Маскве. Мо проста супала, але не выключана, што менавіта расійскае кіраўніцтва параіла не глушыць людзей дручкамі. Дарэчы, нашумелыя мітынгі на Балотнай плошчы ды праспекце Сахарава, шэраг іншых акцый праціўнікаў Пуціна былі санкцыянаваныя. І неба на зямлю не ўпала.

Пры тым што пуцінскі рэжым далёка не ліберальны, тамтэйшыя кіроўныя вярхі дзейнічаюць болей тонка. На пачатку сакавіка расійскі амбасадар **Аляксандр Сурыкаў** заявіў, што ў ягонай краіне надышоў час палітычнай мадэрнізацыі. Дыпламат прызнаў: *"Мы сціснулі палітычны абсяг перад пагрозай распаду Расіі ў 90-х. Зараз трэба расціскаць".*

На гэтым тыдні Дзярждума завяршае працу над законам аб палітычных партыях, які ўнёс прэзідэнт Мядзведзеў. Для стварэння партыі дастаткова будзе мець 500 сябраў, а не 40 тысяч, як зараз; спрашчаецца рэгістрацыя партый (фактычна ўводзіцца заяўны прынцып). Гэта пэўна ж дасць штуршок партыйнаму будаўніцтву, фарміраванню слоя новых палітыкаў. Другі законапраект Мядзведзева скасоўвае збор подпісаў выбаршчыкаў для ўдзелу кандыдатаў у любых выбарах, акрамя прэзідэнцкіх (на якіх рэзка знізяць колькасць неабходных подпісаў). Звыш таго, Крэмль паабяцаў вярнуць выбары губернатараў.

Не варта, канечне, думаць, што заўтра ў Расіі надыдзе дэмакратычны рай. Крытыкі палітычнай рэформы кажуць пра яе касметычны характар, падводныя камяні. Але, ва ўсякім разе, трэнд мае месца. Між іншым, нядаўняя гісторыя дае прыклады трансфармацыі аўтарытарных рэжымаў цераз рэформы зверху (Турцыя, Бразілія, Чылі) ці шляхам дамовы між кіроўнай элітай ды апазіцыяй (Іспанія, Польшча, Венгрыя, Паўднёвая Карэя). А вось рэвалюцыі, як ні парадаксальна, вельмі рэдка прыводзяць да дэмакратыі.

Зазначу таксама, што да рэформ, хай сабе і абмежаваных, расійскі тандэм змусіла нечаканая хваля пратэстаў — "снежная рэвалюцыя". Вярхі вырашылі: лепей акуратна выпускаць пару, чым кацёл выбухне. Так што першы ўрок ляжыць на паверхні: улада ідзе на саступкі, калі яе падпіраюць знізу. Але ў сённяшняй Беларусі, прыціснутай асфальтавым катком рэпрэсій пасля 19 снежня 2010 года, масавых пратэстаў чакаць не выпадае. Яшчэ больш наіўна спадзявацца на запуск рэформы зверху (тым болей што рэжым персаналісцкі, няздольны нават на такую перапасоўку ўлады, як між Пуціным ды Мядзведзевым). Хіба што той самы Пуцін так возьме за жэбры (не за дыктатуру, а дзеля сваёй "еўразійскай інтэграцыі"), што давядзецца зноў распачынаць гульні з Еўропай ды нешта такое імітаваць.

Раней пэўныя персоны з атачэння падштурхоўвалі Лукашэнку хаця б да кіраванай дэмакратыі "а-ля рюс". І нават кіраўніца ЦВК Ярмошына некалькі разоў казала пра магчымы пераход да выбараў па партыйных спісах. Але брутальны фінал 19 снежня відавочна стаў траўматычным шокам для афіцыйнага кіраўніка. Зараз ён баіцца нават гамеапатычных доз лібералізацыі. Наадварот, дыпламатычная вайна з Еўрасаюзам дыктуе логіку далейшага сціскання ўнутрыпалітычнага абсягу.

**Так, прыдушаную, запалоханую краіну ямчэй кантраляваць, але па вялікім рахунку такая логіка — пагібельная для Беларусі. Яна вядзе ў перспектыве або да крывавага бунту з туманным фіналам, або да ціхага паглынання Расіяй.**

Дзяржаўная прапаганда дзяўбе, што заходнікі хочуць зладзіць тут пераварот, рэвалюцыю таго ці іншага колеру. Насамрэч Еўропа прапануе схему паступовай, мяккай, бяскроўнай дэмакратызацыі. Між іншым, менавіта "гнілая дэмакратыя", не абяцаючы раю, акурат і дазваляе назаўжды скончыць з рэвалюцыямі. Зірніце ў тэлевізар: еўрапейскія сталіцы скаланаюць маніфестацыі, нашмат большыя за Плошчу-2010, але ўрады ад гэтага не падаюць. Народ вырашае іх лёс культурна, без гвалту, цераз выбарчыя скрыні.

Загваздка ў тым, што цяперашняя беларуская вярхоўка хоча панаваць вечна. Але так не бывае. Беларусь жа як краіна не выжыве без палітычнага класа. Палітыкаў не створыш у прабірцы, нібы гаманкулусаў. Такую эліту трэба фарміраваць — хай сабе і асцярожным, паступовым пашырэннем палітычнага поля. Сёння ж такой эліты — скажам наўпрост — няма. Лукашэнка, як правадыр-харызматык, выпальвае абсяг вакол сябе, каб быць адзінай фігурай. Называць палітыкамі прызначаных зверху малавыразных функцыянераў Нацыянальнага сходу можа толькі вялікі гумарыст. Апазіцыя ж выбіта з рэальнага палітычнага жыцця, яе дзеячы дэ-факта — маргіналы, дысідэнты.

Нават калі ўявіць сабе нейкія масавыя забурэнні (што само па сабе малаімаверна: беларуса хоць на цвік пасадзі...), то не думаю, што гэтую хвалю здольныя асядлаць персоны са старой тытульнай апазіцыі — здрабнелыя, з 17-гадовым шлейфам параз. Карацей, голы васэр. (Дарэчы, мяне дзівіць самаўпэўненасць тых апазіцыйных дзеячаў, што ў сваіх стратэгіях паводле змаўчання выстаўляюць опцыю: пасля Лукашэнкі — мы. Хто вам сказаў?)

Менавіта брак палітычнага класа прывёў да адкату ва Украіне пасля рамантычнай "памаранчавай рэвалюцыі". А вось вам іншы прыклад: пасля таго як пад Смаленскам разбілася амаль што ўсё кіраўніцтва Польшчы ўключна з прэзідэнтам, палітычны лад краіны не пахіснуўся, ніводзін дзяржаўны механізм не даў збою, а месцы загінуўшых лідараў занялі падрыхтаваныя палітыкі другога эшалона. У Беларусі ж не толькі другога, але і першага эшалона няма.

Між тым ніводзін правадыр не вечны. Поспех аперацыі "Пераемнік" таксама не гарантаваны. Таму ў нейкую гадзіну Х "апошняя дыктатура Еўропы", ужо друзлая, гнілая, можа апынуцца без руля і без ветразяў. І дзе гарантыя, што ўладу, якая валяецца ў брудзе, не падхопіць спрытны авантурыст? Вялікая таксама імавернасць, што наменклатура ціха прасуне свайго кадра, і ў выніку беларусы, не паспеўшы вокам міргнуць, атрымаюць аўтарытарызм нумар два — меней брутальны, але такі ж балотны, пагібельны для перспектыў краіны.

А самы небяспечны варыянт — калі ў такі момант на сінявокую Беларусь пасадзіць свайго кадра Масква. І хто рыпнецца, хто адаб'е імперскі план? Ні паўнавартасных палітычных інстытуцый, якія могуць дзейнічаць на аўтапілоце, ні з'яднанай палітычна спелай эліты — няма. Выбіваецца адно звяно — і дзяржава ў паралічы.

Цяперашні правадыр баіцца выпусціць з рук хоць каліва ўлады. А ў выніку можа быць бяздарна аддадзена ў чужыя рукі цэлая краіна.

## *У Мінску з'явіцца помнік Святой Сафіі Слуцкай*

*Помнік Святой праведнай Сафіі Слуцкай плануецца адкрыць 31 сакавіка на тэрыторыі аднайменнага праваслаўнага прыходу ў Мінску.*

На малебен і ўрачыстае адкрыццё помніка запрошаны Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, а таксама ўвесь епіскапат БПЦ, прадстаўнікі гарадскіх і раённых улад.

Скульптура вышынёй больш за тры метры будзе ўстаноўлена ля ўваходу ў храм. Аўтар помніка — выпускнік мастацкага факультэта Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў **Міхаіл Інькоў.**

## *Танных авіябілетаў да Масквы больш няма*

*Цяпер мінімальны кошт пералёту ў адзін бок — 75 еўра.*

Зімой білет на авіярэйс "Мінск—Масква" каштаваў 43 еўра — танней, чым на цягніку.

## *Едзе даСяргея Сідорскага?*

*У Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання не каменціруюць чуткі аб тым, што першы намеснік міністра Надзея Каткавец з'язджае з Беларусі.*

Па некаторых звестках, Надзея Каткавец накіруецца ў Маскву на новую пасаду ў Еўразійскай эканамічнай камісіі.

*"У Надзеі Мікалаеўны зараз адпачынак,* — распавёў "Народнай Волі" намеснік міністра **Васіль Паўлоўскі**. — *Гэта вельмі асабістае пытанне. Але пасля адпачынку яна вам, вядома, адкажа".*

Еўразійская эканамічная камісія з'яўляецца наднацыянальным органам Мытнага саюза і Адзінай эканамічнай прасторы. Некаторыя беларускія чыноўнікі ўжо знайшлі там сабе працу. Напрыклад, былы прэм'ер-міністр Беларусі **Сяргей Сідорскі** прызначаны на пасаду члена калегіі па прамысловасці і аграпрамысловым комплексе Еўразійскай эканамічнай камісіі.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ДОСЛОВНО

*"Минск все больше становится обузой и для Москвы. Дело не только в финансах — Минск ведь платит за газ где-то треть той цены, которую Москва требует у Киева. Но Беларусь становится политической и моральной обузой".*

**Рупрехт ПОЛЕНЦ, глава Комитета по иностранным делам немецкого бундестага.**

**Справка:** Беларусь платит за 1000 кубических метров газа 165,6 доллара, а Украина — 416. Так что немецкий депутат немного неточен.

БЕЛАРУСЬ — ЕЎРОПА

# «Вярніце людзей да іх сем'яў!»

Сёння, 23 сакавіка, міністры замежных спраў краін Еўрапейскага Саюза збяруцца ў Брусэлі, каб разгледзець пытанне санкцый у адносінах да трох краін — Сірыі, Ірана і Беларусі.

"Беларускае пытанне" не сыходзіць з парадку дня еўрапейскіх палітыкаў у сувязі з тым, што ў нашай краіне застаюцца палітвязні. Прычым Мінск не толькі не спрабуе зняць гэтае пытанне, а, наадварот, нібы абвастрае яго. Так, да спісу зняволеных, пераслед якіх праваабаронцы напрасцяк ўвязваюць з палітычнымі поглядамі, за апошні год дадаліся Алесь Бяляцкі і Сяргей Каваленка; за кратамі застаюцца былыя кандыдаты ў прэзідэнты Андрэй Саннікаў і Мікалай Статкевіч; нягледзячы на нездавальняючы стан здароўя, у турэмным шпіталі трымаюць Дзмітрыя Бандарэнку; хлопцам-анархістам уляпілі аграмадныя тэрміны за акцыю супраць афіцыйных прафсаюзаў, супраць таго, што праводзяцца маштабныя ваенныя вучэнні ў той час, калі галадаюць пенсіянеры, а ў бальніцах не хапае лекаў...

Еўропа патрабуе, каб гэтыя людзі былі выпушчаны.

*"Мы дасылаем вельмі ясны палітычны сігнал адносна таго, што вы (ўрад Беларусі) павінны зрабіць. Вы павінны вызваліць гэтых людзей з турмы, вы павінны дазволіць ім вярнуцца да сваіх сем'яў. І для нас вельмі важна дасылаць гэты пасыл, гаворачы, што, калі вы выканаеце гэта, ёсць многа рэчаў, над якімі мы б маглі працаваць разам з вамі. І гэты пасыл мы таксама дасылаем як ад імя Еўрасаюза, так і ад асобных краін-членаў, якія маюць кантакты ў Беларусі. Мы дасылаем адны і тыя ж сігналы. Мы робім гэта таму, што мы хочам, каб вы змяніліся, хочам, каб вы разабраліся з гэтымі пытаннямі. Але калі вы гэта зробіце, то мы — тут",* — сказала камісар па знешняй палітыцы ЕС баранеса **Кэтрын ЭШТАН.**

Афіцыйны Мінск пакуль гэтых заклікаў не чуе. Таму, паводле неафіцыйнай інфармацыі, сёння ў Брусэлі размова будзе ісці пра новыя санкцыі. На гэты раз у "чорныя спісы" нібыта трапяць не толькі суддзі і пракуроры, датычныя да палітычных працэсаў, але і некалькі буйных беларускіх бізнесменаў.

Падобна на тое, што пазбегнуць такога сцэнарыя ў Брусэлі хацелі да апошняга. Літаральна напярэдадні разгляду пытання санкцый міністр замежных спраў Польшчы **Радаслаў СІКОРСКІ** заявіў журналістам: *"Еўрасаюз будзе вымушаны пашырыць санкцыі супраць Беларусі ў выпадку, калі палітвязні не будуць вызвалены".* Прычым гэтую заяву ён зрабіў пасля сустрэчы са сваімі калегамі з Германіі і Расіі, што азначае: такая пазіцыя — не толькі пазіцыя Польшчы.

І ў еўрапейскіх сталіцах, і ў Мінску ўсе чакалі добрых навін з сем'яў палітвязняў. Была надзея, што, каб не абвастраць сітуацыю, беларускія ўлады не будуць трымаць палітзняволеных, нібы нейкі "залаты запас". Але на момант здачы гэтага нумара газеты ў друк добрых навін не было. Толькі прэс-сакратар беларускага МЗС **Андрэй САВІНЫХ** зрабіў заяву пра тое, што можа быць *"узаемапрымальнае ўрэгуляванне існуючых рознагалоссяў".* Іншага шляху МЗС не бачыць, і гэта *"адпавядае інтарэсам не толькі Беларусі, але і Еўрасаюза".* А рух да паразумення трэба пачынаць толькі праз *"зніжэнне інтэнсіўнасці супрацьстаяння".*

*"Найперш трэба спыніць практыку пастаяннага пашырэння санкцый з боку ЕС... Калі адзін бок вядзе актыўныя сілавыя дзеянні, любыя ўмовы іншага боку па дээскалацыі напружання становяцца наўрад ці магчымымі, як, прынамсі, і вяртанне амбасадараў... Адмова ад навязвання сілавога сцэнарыя істотна мяняе сітуацыю. У гэтым выпадку ўзнікаюць перадумовы для вырашэння ўсяго комплексу пытанняў",* — заявіў Андрэй Савіных.

Падобна на тое, што гэта той самы выпадак, калі застаецца ўражанне дыялогу сляпога з глухім. Адзіным выйсцем застаюцца санкцыі?.. Ужо сёння стане вядомы адказ на гэтае пытанне.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ТЫМ ЧАСАМ

## *Кола сціскаецца*

Прэзідэнт Расіі **Дзмітрый МЯДЗВЕДЗЕЎ** і генеральны сакратар Савета Еўропы **Турб'ёрн ЯГЛАНД** плануюць абмеркаваць сітуацыю ў Беларусі.

Сустрэча палітыкаў адбудзецца ў рамках навукова-практычнай канферэнцыі Расійскага савета па міжнародных справах "Еўраатлантычная супольнасць бяспекі: міф або рэальнасць", якая пройдзе ў Маскве сёння, 23 сакавіка.

Напярэдадні, вступаючы на канферэнцыі па беларускім пытанні ў Осла, генсек Савета Еўропы заявіў: *"Мы маем справу з класічным дыктатарам. Ва ўсіх дыктатараў галоўны прыярытэт — выжыванне. Кожную раніцу яны думаюць толькі пра тое, як яны могуць застацца ва ўладзе. Мы ніколі не зможам прымусіць Лукашэнку рэфармавацца і сысці ад улады самастойна. Гэта важная зыходная кропка для нас. Еўропа і міжнародная супольнасць спрабавалі ўжываць розныя стратэгіі ў дачыненні да Мінска, але нічога не дапамагала з-за гэтага прынцыпу выжыць, нягледзячы ні на што".*

Спадар Ягланд першым з міжнародных чыноўнікаў такога рангу агучыў ідэю прыцягнення Расіі да вырашэння беларускага пытання. Ён заявіў, што неабходна дакладна *"ўсведамляць тое гістарычнае мінулае, якое было ў Беларусі, і імкнуцца да сумеснай міжнароднай стратэгіі, уключаючы ўдзел Расіі ў сумесных намаганнях".*

*"Лукашэнка карыстаецца адносінамі паміж Захадам і Усходам. Адзін год ён гуляе ў камандзе Еўропы, на наступны год пераходзіць у каманду Расіі, спрабуючы атрымаць для сябе максімальную выгаду. І Еўропа не дамаглася нічога, і ў міжнароднай супольнасці не было адзінай пазіцыі",* — падкрэсліў генсек Савета Еўропы.

Ён не верыць у эканамічныя санкцыі супраць Беларусі: *"Гэта будзе мець адмоўныя наступствы для насельніцтва і адштурхне беларусаў ад Еўропы. Беларусь вельмі цесна звязаная з Расіяй, і мы не зможам прымусіць Расію прымяніць санкцыі ў адносінах да Мінска".*

Турб'ёрн Ягланд прапанаваў свой план дзеянняў у адносінах да Беларусі — сумесную палітыку, адзіную палітыку Еўропы з прыцягненнем да гэтага Расіі. *"Кіраўніцтву Расіі таксама надакучыў Лукашэнка",* — сказаў спадар Ягланд.

З-ЗА КРАТАЎ

*Валянцін СТЭФАНОВІЧ:*

# *«Не ў правілах Алеся на нешта скардзіцца»*

*Палітзняволены праваабаронца Алесь Бяляцкі даслаў родным і сябрам першыя паштоўкі з Бабруйскай папраўчай калоніі,дзе знаходзіцца з 28 лютага.*



Як вядома, у Бабруйскую калонію Алеся Бяляцкага накіравалі адбываць пакаранне па рашэнні суда Першамайскага раёна Мінска — амаль чатыры гады пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Сем месяцаў з часу затрымання ён ужо правёў у СІЗА.

Пра ўмовы ўтрымання праваабаронцы казаць яшчэ рана, але паводле Крымінальна-выканаўчага кодэкса Рэспублікі Беларусь, які рэгламентуе правы асуджаных, Бяляцкі будзе мець магчымасць *"штомесяц расходаваць на набыццё прадуктаў харчавання і прадметаў першай неабходнасці грашовыя сродкі, якія маюцца на асабовых рахунках, у памеры пяці базавых велічынь (175 тысяч рублёў)".*

Таксама Бяляцкі будзе мець права на тры кароткатэрміновыя (да чатырох гадзін) і два доўгатэрміновыя (да трох сутак) спатканні на працягу года. Сваякі могуць перадаваць яму тры пасылкі альбо перадачы і дзве бандэролі на працягу года.

Зразумела, што за парушэнні рэжыму адбыцця пакарання нават гэтыя магчымасці могуць быць абмежаваны па рашэнні адміністрацыі ўстановы.

*"На гэтым тыдні я атрымаў ліст ад Алеся*, — распавядае "Народнай Волі" праваабаронца **Валянцін СТЭФАНОВІЧ**. — *У ім ён паведамляе, што пакуль знаходзіцца ў каранціне. З жартам піша: "Сяджу на прыродзе, слухаю шчэбет птушачак". Сочыць за падзеямі, што адбываюцца ў краіне, бо нейкая прэса ўсё ж такі там маецца. Расказаў, што "калегі па няшчасці", якія там таксама адбываюць пакаранне, ставяцца да яго альбо нейтральна, альбо з павагай. Наколькі я зразумеў, кантынгент там у асноўным — маладыя людзі. Алесь выказаўся, што знаходжанне ў калоніі нагадвае яму армію, але ні на што не скардзіцца. Ды гэта і не ў яго правілах".*

— Я апошні ліст атрымала 15 сакавіка, — кажа жонка Алеся Бяляцкага **Наталля ПІНЧУК**. — Пісаў, што ў бліжэйшы час яго пераводзяць у атрад.

**— Як трымаецца? У лістах пра гэта ёсць?**

— Не, пра гэта не піша. Алесь больш распавядае, якое там надвор'е, куды хадзіў і што бачыў... Пра сябе не кажа.

**— Натуральна, што нялёгка і вам...**

— Так, сітуацыя не змяняецца. А наколькі складана?.. Складана. Але я не ўмею пра гэтыя рэчы казаць.

**— Магчыма, у перспектыве з'явіцца нейкая надзея на датэрміновае вызваленне?**

— Ведаеце, я ўжо адыходжу ад такіх катэгорый, як надзея і спадзяванні. Проста не хачу новых расчараванняў, а таму кожны дзень вырашаю тыя праблемы, якія ўзнікаюць.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

БЛІЦ

*Не так даўно доктар філасофскіх навук, прафесар і па сумяшчальніцтве намеснік дырэктара Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта Леў Крыштаповіч заявіў, што паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Беларуссю няма ніякай сувязі, а Радзівілы, Сапегі і Агінскія, якіх "цягнуць у беларускую культуру", не маюць нічога агульнага з беларусамі.*

*У гэтай сувязі "Народная Воля" пацікавілася грамадскай думкай на тэму:*

# Ці трэба перапісваць падручнікі па гісторыі?

**Ніна СТУЖЫНСКАЯ, кандыдат гістарычных навук:**

— Я добра памятаю падручнік па гісторыі Казахстана. Са зместу было зразумела, што казахі — лепшы ў свеце люд, а іх тэрыторыя — пуп зямлі. Вось гэта правільны падыход. А калі пераявлася з Карагандзінскага ўніверсітэта ў Беларускі, я доўга не магла зразумець, ці ёсць у беларусаў свая гісторыя... Так яна была напісана. Падручнік уяўляў сабой бляклую, невыразную копію з расійскага. Падручнікі трэба пісаць з беларускай купіны, з пункту гледжання інтарэсаў народа краіны, дзяржаўнасці, незалежнасці, суверэнітэту. Не адчуваецца, што цяперашнія падручнікі пішуць гаспадары краіны, хутчэй — людзі з вялікай залежнасцю ад суседа. Таму перапісваць трэба!

**Франак ВЯЧОРКА, палітык:**

— Тыя, якія былі напісаны на аб'ектыўных матэрыялах, — ні ў якім разе! Нам спрабуюць "укараціць" нацыянальную годнасць. Маўляў, беларусы бяруць свой пачатак з савецкіх людзей, а таму павінны быць паслухмяныя і ўсяго баяцца. Зрэшты, гэта не ноў-хаў Лукашэнкі. У антыўтопіі Джорджа Оруэла "1984" перапісванне гісторыі з'яўляецца штодзённай працай у грамадстве. Перапісвалі падручнікі і Ленін, і Сталін, і Гебельс, і Кім Ір Сэн. Шкада, што і Лукашэнка трапіць у гэтую кампанію.

**Аляксандр ГРЫГАРАЎ, экс-міністр спорту:**

— У прынцыпе, усё цячэ, усё змяняецца. Пэўныя дапаўненні, абнаўленні — я лічу, што гэта проста неабходна. Мы вучыліся ў свой час па адных падручніках, зараз з'явіліся новыя звесткі аб тым, што ўсё было не зусім так, як выкладалася раней. Вядома, з улікам гістарычнай праўды я сёе-тое ў падручніках па гісторыі памяняў бы.

**Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук:**

— У залежнасці ад таго, які падручнік. Таму што нямала ёсць цяпер падручнікаў, якія нас уводзяць ад аб'ектыўнай гісторыі. Вядома, іх трэба перапісваць. А ёсць такія, што выдаваліся напрыканцы 80-х — на пачатку 90-х гадоў, якія не трэба перапісваць, але варта дапаўняць. Бо за гэтыя гады з'явіліся новыя звесткі, больш аб'ектыўны матэрыял. Так што ўсё патрабуе ўдасканалення. І ніколі гістарычная навука не спыніцца на дасягнутым і не будзе сказана: маўляў, ужо больш няма чаго мяняць, дапаўняць і перапісваць. Гэта няспынны працэс.

**Анатоль ПАЎЛАЎ, экс-прарэктар БДУ, кандыдат хімічных навук:**

— Самае галоўнае, каб падручнікі не скажалі гісторыю. Вось я цяпер з велізарнай цікавасцю праслухаў бы курс па гісторыі КПСС у выкладзе якога-небудзь прафесара амерыканскага ўніверсітэта. Хоць у нашы часы гэты курс лічыўся нудным і не вельмі патрэбным, на самай справе там ёсць цікавыя рэчы. І ўпэўнены, што ў сучасным выкладзе гісторыя КПСС была б зусім іншай. Таму я за тое, каб перапісаць.

**Аляксандр ФЯДУТА, гісторык літаратуры:**

— Так, я лічу — трэба. Гісторыю кожны раз пішуць пераможцы. Але паколькі развіваецца яна па спіралі, то назаўтра высвятляецца, што ўчарашні падручнік напісаны тым, хто прайграў. Значыць, для таго, каб напісаць падручнік, трэба зноў выйграць.

**Алена БАНДАРЭВІЧ, менеджар:**

— А я не стала б перапісваць падручнікі гісторыі. Мне здаецца, што канва нейкіх важных, я б нават сказала, глабальных гістарычных падзей усюды выкладзена больш-менш аднолькава. А каго цікавяць дэталі і падрабязнасці, той заўсёды зможа знайсці дадатковую літаратуру, вывучыць іншыя погляды, сабраць факты, думкі. Калі гаворка пра тую гісторыю і тых асоб, якіх наогул няма ў цяперашніх падручніках, то, вядома, трэба ўпісваць. Але так, каб гадоў праз пяць не давялося зноў перапісваць...

**Марына КОКТЫШ.**

РЭАКЦЫЯ

# Клюнуць — не клюнуць...

Згодна з Указам №136, які быў падпісаны на гэтым тыдні, беларускія грамадзяне па дасягненні пенсіённага ўзросту могуць вырашаць — атрымліваць пенсію ці часова адмовіцца ад яе, каб потым пенсія "назапасілася" ў большым памеры. За першы год працы без пенсіі яе рост складзе 6% ад заробку, за два гады — 14%, за тры — 24%, за чатыры — 36%, а за пяты і наступныя гады памер пенсіі падвысіцца на 14% ад заробку, якія сумуюцца з вызначанымі раней працэнтамі падвышэння. Такім чынам улады спадзяюцца падвысіць нізкі ўзровень даходаў пенсіянераў.

Паводле афіцыйных даных, сярэдні памер пенсій у лютым склаў 1 мільён 255,2 тысячы рублёў. Гэта значыць, што з улікам інфляцыі ў параўнанні з мінулым годам ён знізіўся на 0,5%. Усё б нічога, калі б рэальны памер пенсій у 2011 годзе не зменшыўся на 23% у параўнанні з папярэднім. Карацей, бяднеюць нашы старыя... Але цяпер працуючым пенсіянерам абяцаюць бонусы, калі тыя адкладуць на некалькі гадоў атрыманне пенсіі.

***Ці падзяляюць аптымізм улад самі пенсіянеры і тыя, хто вось-вось імі стане? Ці гатовыя яны рызыкнуць, адмовіцца ад пенсіі сёння, каб потым стаць больш заможнымі?***

**Валянціна ЛУСКІНА (літаральна праз чатыры месяцы споўніцца 55 гадоў, працуе ў гастраноме №17 г.Мінска):**

*— Я не ведаю, баюся прагадаць. Мне трэба параіцца з кімсьці. Разумееце, няма даверу да абяцанняў дзяржавы, няма веры, што гэта сапраўды нешта дасць талковае. Яно, канешне, лепш атрымліваць больш грошай, але ў нас жа ўсё непрадказальна. Вось я гляджу, што долар стаіць на месцы ці нават падае, а цэны растуць і растуць. Чаму яны растуць?.. Шчыра кажучы, я разлічвала, што яшчэ папрацую, буду атрымліваць і заробак, і пенсію. А цяпер нават і не ведаю...*

**Уладзімір БЫЧОК (працуе ў сталічным гіпермаркеце будаўнічых матэрыялаў "Мацярык"):**

*— Я ўжо чуў пра гэтае новаўвядзенне. Пакуль не вызначыўся. Мне яшчэ 58 гадоў, застаецца крыху больш за год працаваць да пенсіі. Але я хутчэй за ўсё афармлю пенсію і, калі змагу, то буду і працаваць, і пенсію атрымліваць. Справа ў тым, што заробак мой невялікі. А я ж яшчэ і дачцэ сваёй дапамагаю. Яна развялася з мужам. У яе дзіця. Што рабіць? Адмовіцца ад пенсіі, каб праз пяць гадоў атрымліваць болей? А раптам я гэтыя пяць гадоў не пражыву? Мае аднагодкі-мужыкі мруць як мухі. Каму тады стане лягчэй ад таго, што я не браў свае законныя пенсіённыя грошы? Ды і такая інфляцыя, што, можа, тое павелічэнне нічога і не дасць. Таму больш схіляюся да таго, што ад пенсіі не трэба адмаўляцца.*

**Яўгенія КОЧКІНА (сяброўка Валянціны Лускінай):**

*— Я дык ужо тры гады на пенсіі і працую. Адмовіцца ад пенсіі? Я, напрыклад, не магу гэтага зрабіць. Нават калі ўявіць, што потым буду атрымліваць болей, чым цяпер. І не таму, што баюся прагадаць, а таму, што не ўяўляю, як без гэтых дадатковых грошай пражыць. У мяне сын працуе, але зарабляе нейкія капейкі. Набыў старую машыну, дык я яму калі-нікалі яшчэ грошы даю то на бензін, то на рамонт. За кватэру заплаціць трэба, есці нешта таксама трэба, медыкаменты — у мяне ціск падвышаны. Мы не можам сабе дазволіць нават просценькі адпачынак на моры. Ну не магу я сэканоміць, няма з чаго. А калі яшчэ ад пенсіі адмовіцца?.. Не... Буду атрымліваць тое, што ёсць.*

Можа, я не на тых людзей натрапіла, але з дзесяці апытаных патэнцыяльных пенсіянераў ніводны не выказаўся за новаўвядзенне. Магчыма, адной з прычын можа быць і тое, што ўказ толькі нядаўна падпісаны і людзі яшчэ дакладна не ведаюць усіх акалічнасцяў. Але ўжо відавочна, што новаўвядзенні не вырашаць пенсіённую праблему. І ўлады ўсё роўна будуць вымушаны шукаць нейкае выйсце. Паводле прагнозаў незалежных экспертаў, пытанне аб падвышэнні пенсіённага ўзросту рана ці позна ўсё роўна паўстане.

**Любоў ЛУНЁВА.**

БЕЗЗАКОННЕ

# Пакуль Вінцук Вячорка ехаў да мяжы, апынуўся ў «чорным спісе»

Пасля таго, як некалькіх беларускіх палітыкаў, журналістаў, праваабаронцаў, грамадскіх дзеячаў не выпусцілі за межы краіны, з'явілася інфармацыя аб тым, што існуе так званы чорны спіс невыязных. Грамадзянам прапаноўвалі перад тым, як ехаць за мяжу, наведаць аддзелы па грамадзянстве і міграцыі сваіх раёнаў, каб даведацца, ці ёсць іх прозвішча ў базе даных. Іду...

У аддзеле па грамадзянстве і міграцыі Упраўлення ўнутраных спраў Савецкага раёна Мінска, да якога я адношуся, прыгожая ветлівая жанчына Іна Акуліч адразу просіць мае дакументы. Бо адпаведную даведку чалавек можа атрымаць толькі пра самога сябе. Мяне, напрыклад, калегі прасілі даведацца пра тое, ці ёсць іхнія прозвішчы ў спісе тых, каму забаронены выезд, але Іна Акуліч адназначна паведаміла, што такую даведку яны даць не можа: "Не, не і не!"

Іна Акуліч патлумачыла, што па тэлефоне інфармацыю аб тым, ці не ўнесена тваё прозвішча ў спісы невыязных, атрымаць таксама нельга. Кожны мусіць асабіста наведаць аддзел. Больш за тое, у аддзеле па грамадзянстве і міграцыі не толькі праверацъ вашы дакументы, але і зробяць адпаведны запіс у журнале: такі-такі звяртаўся, даведку далі...

У маім выпадку камп'ютары не "віселі", усё добра працавала, і мяне абрадавалі, што майго прозвішча ў спісе няма. Сышла, шчыра прызнаюся, вельмі абрадаваная. Але радасць тая была нядоўгай.

Так здарылася, што, выйшаўшы з аддзела па грамадзянстве і міграцыі, я сустрэла былога кіраўніка Партыі БНФ Вінцука Вячорку. Слова за слова, і высветлілася, што ён збіраецца паўтарыць мой маршрут, бо збіраецца ехаць у Чэхію. Наведаў. Сказалі, што ягонага прозвішча ў таемным спісе няма. На ўсялякі выпадак ён нават узяў даведку пра гэта, каб не было ніякіх праблем на мяжы. І вось тут пачаліся прыгоды.

Вінцук Вячорка ехаў у Чэхію разам са сваёй 14-гадовай дачкой Ружанай. У Празе зараз знаходзіцца яго сын Франак, які праходзіць паўгадавую стажыроўку на Радыё Свабода. Аніякай палітыкі, аніякіх семінараў, канферэнцый, рэзалюцый аб тым, ці трэба Еўропе ўводзіць эканамічныя санкцыі ў адносінах да Мінска альбо лепш зліцавацца. І тым не менш сустрэча бацькі з сынам не адбылася. На мяжы палітыку сказалі, што яго прозвішча ў "чорным спісе". Ніякія даведкі з аддзела па грамадзянстве і міграцыі на памежнікаў не падзейнічалі.

— Калі я браў даведку, то жанчына сказала, што дакумент дзейнічае толькі ў межах яе кабінета, — расказаў Вінцук Вячорка, вярнуўшыся ў Мінск. — На мяжы ва ўсіх сабралі пашпарты, а потым прыйшоў маёр, начальнік змены, і выбачаўся. Ён мне патлумачыў, што выпусціць за мяжу мяне не могуць. Я паказаў яму дакумент аб тым, што майго прозвішча няма ў той базе, але ён прызнаўся, што дзейнічае ў адпаведнасці з унутранай інструкцыяй. Што гэта за інструкцыя, я не ведаю. Гэты афіцэр вельмі стараўся быць добразычлівым, нават на вакзале там нешта дапамагалі, каб кампенсаваць мне выдаткі. Апраўдваліся: "Ну, вы ж разумееце..." "Не, — кажу, — не разумею. Бо ведаю, што, згодна з законам, не выпускаюць тых, чые прозвішчы ў базе".

Такім чынам рана я радавалася, бо вось ужо ёсць жывы прыклад — аднаго наведвання пашпартнага аддзела недастаткова. Ёсць прыклад, што асноўныя навіны можна ўзнаць на мяжы — і ляснуць планы, згараць грошы, нервы, час... І ўсе будуць толькі разводзіць рукамі: інструкцыя...

Дарэчы, знайшлася першая службовая асоба, якая прызнала існаванне "спісаў невыязных". Гэтай асобай стаў сам Аляксандр Лукашэнка. Ен заявіў, што на поўную моц гэты спіс беларускія ўлады яшчэ не ўвялі. "Але ўвядзём!" — паабяцаў кіраўнік дзяржавы.

Падобна на тое, што простае пытанне — наколькі гэта адпавядае Канстытуцыі і дзеючаму заканадаўству? — ва ўладзе абсалютна нікога не цікавіць.

**Любоў ЛУНЁВА.**

РУБАМ!

# *Як разумеюць зямельную рэформу фермер Васіль Барауля і намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Васіль Паўлоўскі*

*Ці будзе ў Беларусі праводзіцца кардынальная зямельная рэформа, размова пра якую ідзе не першы год? Гэтае пытанне я вырашыла задаць падчас учарашняй прэс-канферэнцыі намесніка міністра сельскай гаспадаркі Васіля Паўлоўскага.*

Дарэчы, два гады таму ў "Народнай Волі" член праўлення Беларускага грамадскага аб'яднання фермераў **Васіль Барауля** выклаў сваё бачанне першачарговых змен:

*"На мой погляд, сутнасць зямельнай рэформы павінна заключацца ў наступным:*

*1) толькі грамадзяне Рэспублікі Беларусь могуць валодаць зямлёй;*

*2) права ўласнасці на зямлю абмежаваць да 100 гектараў зямлі;*

*3) увесці мараторый на права продажу зямлі на 5 гадоў для грамадзян Рэспублікі Беларусь і да 15—20 гадоў для замежных грамадзян;*

*4) права валодання зямлёй павінна быць замацавана толькі за фізічнымі асобамі, права за юрыдычнымі асобамі павінна быць агаворана асобнай пастановай Савета міністраў ці прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь;*

*5) права перадачы зямлі ўскласці на мясцовыя Саветы (толькі такім шляхам з севазвароту будуць выведзены неэфектыўныя землі сельскагаспадарчага прызначэння);*

*6) рэформа павінна быць аб'яўлена і праведзена ў самыя кароткія тэрміны з заяўным прынцыпам ".*

А што ж сказаў на гэты конт міністэрскі чыноўнік?

*"Зямельная рэформа ў нас не спыняецца,* — заўважыў намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання **Васіль Паўлоўскі**. — *У Беларусі распрацавана праграма развіцця сельскіх тэрыторый, якая прадугледжвае рэарганізацыю сельгаспрадпрыемстваў, стварэнне на базе некаторых з іх агракамбінатаў, холдзінгаў.*

*Гэта мы і называем зямельнай рэформай. У нас распрацавана вялікая праграма, дзе ўсё распісана па гадах — што мы павінны зрабіць да 2015 года. Так што рэформы Міністэрства сельскай гаспадаркі не спыняюцца*".

Паўлоўскі не стаў закранаць актуальныя пытанні ўласнасці на зямлю і іншыя прававыя аспекты. Маўляў, іх трэба высвятляць у іншых міністэрствах і кабінетах.

Па ўсім бачна, што чакаць не дачакацца фермеру Бараулі сапраўднай зямельнай рэформы. Ды і як жа: калі яна адбудзецца, то ці спатрэбяцца такія намеснікі міністра, як спадар Паўлоўскі, якія не могуць аргументавана адказаць на пытанне журналіста? Замена шыльд "калгас" на "СПК", аб'яднанне некалькіх калгасаў і саўгасаў у адзін агракамбінат — гэта што, зямельная рэформа?

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

